*Мілагучнае, звонкае, спеўнае слова*



# ВЕРАС



gazeta@veras.f2s.com **Выданне Віцебскай суполкі моладзі "ВЕРАС"** №2 сакавік 2000г.

## МАРШ СВАБОДЫ Ў ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ

**Н**ягледзячы на ўсе запужваньні ўладаў і дрэннае надвор'е, 15 сакавіка ў Дзень Канстытуцыі на акцыю аб'яднанай апазыцыі "Марш Свабоды-2" выйшла ад 25 да 40 тысячаў чалавек. Акцыя прайшла без эксцэсаў і ператварылася ў сапраўднае сьвята для людзей, якія наведалі яе.

Нягледзячы на імкненьне ўладаў паказаць прайшоўшую акцыю ў напрыглядным сьвеце, гэта ў іх атрымалася слаба, бо інакш і быць не магло, надта ж унушальным атрымалася дзейства. Да аб'яўленага пачатку акцыі было яшчэ паў гадзіны а на сталічным пляцы Якуба Коласа ўжо сабралася каля пяці тысячаў чалавек, што надзвычай шмат для такога часу. Стала зразумела, што шматлікія скэптыкі, якія прадказвалі "Маршу Свабоды-2" значна меньшы посьпех, жорстка памыліліся.

**Н**апярэдадні ў школах і інстытутах навучэнцаў запуджвалі, ладзілі на час Марша бясплатныя дыскатэкі са зьяўленнем "пад росьпіс" і проста прапаноўвалі "ня шастаць па дажджу, а пасядзець вечар дома". Аляксандр Лукашэнка больш за паўгадзіны свайго "сьпіча" ў палаце прадстаўнікоў прысьвяціў тэме Марша, пагражаў у жаху: "Учыніце беспарадкі - сатру ў парашок!" Нічога іншага ён ня мог - занадта пільная ўвага да гэтай акцыі праявіла міжнародная супольнасьць. Напярэдадні акцыі заявы зрабілі Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША, Белы дом,"Міжнародная амністыя". Усе яны папярэдзілі рэжым пра адказнасьць за




магчымыя сілавя меры супраць дэманстрацыяў "Вясны-2000"




Падчас збору дэманстрантаў на пляцы было раздадзена дзесяць тысячаў капяваных стадаляравых купюр з эмблемай "Марша" з аднаго боку і надпісам "Удзельніку Марша Свабоды-2" з другога. У касах гэтыя грошы раздаваў "асабіста" Лукашэнка. Гэтак арганізатары адрэагавалі на стаўшы ўжо звычайным паклёп Беларускага тэлебачаньня пра тое, што быццам удзельнікам апазыцыйных мітынгаў раздаюць валюту.

На ўсіх жадаючых грошай не хапіла: Як заўсёды адзначылася газэта "Навінкі", якая прадставіла публіцы чалавека падобнага на Лукашэнку, які бег па пляцы Якуба Коласа абуты ў: лыжы. Праз хвіліну санітары з тых жа "Навінак" павязалі "Сашу".

У чвэрць сёмага калёна ўдзельнікаў колькасцю прыкладна ўжо дваццаць тысячаў чалавек рушыла на прашпэкт Ф.Скарыны. Людзей было так шмат, што дружына арганізатараў мэрапрыемства ня здолела ўзяць калёну, як плянавалася, ў простакутнік з мэтаю захаваньня парадку. Аб колькасьці дэманстрантаў можна меркаваць хаця б па тым факце, што калі першы шэраг ужо набліжаўся да пляцоўкі перад Акадэміяй Навук, "хвост" яшчэ не пакінуў мейсца збора.

У гэты час журналісты з БТ ставілі "спэктакаль" на адным з прыпынкаў грамадзкага транспарту. З БТ-шнага "Рафіка" вылезлі ня толькі самі "чэсныя" журналісты, але і героі іхняга рэпартажа. Праз хвіліну яны ўжо распавядалі пра тое, як жа ім дрэнна, калі ў горадзе дэманстрацыя, "не прайсці табе - не праехаць". Пасля здымак гэтак жа дружна група пакінула мэрапрыемства, паехаўшы перадаваць чарговую хлусьню пра паўтары тысячы экстрэмістаў.

Адзіны эпізод, які адбыўся падчас акцыі, здарыўся з прадстаўнікамі расейскага тэлеканала НТБ. Студэнт геаграфічнага факультэта БДУ Сяргей Казлоў ударыў карэспандэнта НТБ Аляксандра Калпакова. Казлоў быў затрыманы і зьмешчаны ў Савецкі РАУС Менска. У адносінах да студэнта ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле "хуліганства". Нападаўца матываваў свой ўчынак тым, што ня згодны з інфармацыйнай палітыкай тэлеканала НТБ па асьвячэньні канфлікта ў Чачні. У міліцыі прыйшлі да высновы, што Казлоў у момант зьдзяйсьненьня злачынства знаходзіўся ў стане алкагалёвага ап'яненьня. Гэты факт падзьцьверджаны экспэртызай.

Напярэдадні Марша, як вядома, на яго былі запрашаныя шматлікія міжнародныя назіральнікі. Аднак улады ўсімі шляхамі перашкаджалі іх прыезду — так дэлегацыя парлямэнтараў і прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў Швэцыі не атрымалі беларускія візы. На "Маршы Свабоды" прысутнічалі прадстаўнік праваабарончай арганізацыі Amnesty International Мэцьці Прынгл, а таксама прадстаўнікі чэскае праваабарончай арганізацыі "People in Need" (Людзі ў бядзе). Акрамя шматлікіх міжнародных назаральнікаў, увесь шлях "Марша Свабоды-2" прайшлі амбасадар ЗША Даніэл Спекхард і кіраўнік кансультатыўна наглядальнай групы АБСЕ Ханс-Георг Вік.

**Працяг на ст. 2**

## МАРШ СВАБОДЫ Ў ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ
**Працяг**

Акцыя асьвятлялася буйнейшымі сусьветнымі СМІ -тэлевізійнымі кампаніямі, агенствамі й друкаванымі выданьнямі.
На іх тле мякка кажучы дзіўна выглядаў расейскі тэлеканал ГРТ, які ўвогуле ігнараваў Марш.
Шумавы эфэкт, які ствараўся натоўпам на вузенькай (у параўнаньні з прашпэктам) вуліцы Сурганава - яўна перакрываў леташні - кастрычніцкі. У гэты момант калёна дасягнула сваёй найбольшай колькасьці - каля сарака тысячаў чалавек. Яшчэ праз паўгадзіны дэманстранты мінаваўшы вуліцу Багдановіча, падыйшлі да асфальтаванай пляцоўкі ДС Кульман.
Нягледзячы на сакавіцкі холад людзі мужна дачакаліся пачатку мітынга, які дзякуючы кемлівасьці арганізатараў быў
зусім ня доўгі. Прадстаўнікі ад кожнай з партыяў выступілі перад натоўпам, які амаль непрарыўна выгукваў "Жыве Беларусь!" і а палове дзявятай саступілі мейсца музыкантам з рок-гурту NRM.
Тут пэўная частка сабраўшыхся, у асноўным людзі сярэдняга ўзросту, пачалі разыходзіцца, утварыўшы доўгі, зьнікаючы недзе ў цемры ланцужок. А моладзь "адцягвалася" спачатку пад NRM-аўцаў, а пасьля пад рок-караля 1998-га года гурт "Нэйра Дзюбель", які сваім "Belarus - uber alles" вымусіў скакаць нават самых сьціплых.
Трэба адзначыць, што ў натоўпе была раздадзеная вельмі вялікая колькасьць запрашэньняў на акцыю апазыцыі "Дзень Волі", якую мяркуецца правесьці 25 сакавіка. Там таксама плянуецца і шэсьце і канцэрт. Да таго ж ёсьць спадзяваньне, што да 25-га пацяплее.
Увогуле уразіла тая атмасфэра сьвята, якая вітала ў натоўпе. Адсутнасьць у ім "ціхароў" і міліцыянтаў разьняволіла людзей, якія перасталі адчуваць за сабой безперапыннага сачэньня. Між тым адсутнасьць міліцыі, якая праўда хавалася ў падворках у цэнтры горада, ніяк не паўплывала на пагаршэньне грамадзкага парадку.
Па дадзеных ГУУС Менска, падчас масавага шэсьця апазыцыі, якое адбылося



ў сераду больш нікога затрымана не было.

### 15 САКАВІКА ВЯЛОСЯ ПРАМОЕ ТРАНСЬЛЯВАНЬНЕ "МАРША СВАБОДЫ ІІ"

**20.45**
Пачаўся мітынг Анатоль Лябедзька: Аўстрыя ня Хайдэр - Беларусь не Лукашенка. Улады не хацелі, каб моладзь прыйшла на гэтую акцыю, аднак мы бачым, што нас шмат.
Людзі: моладзь за Беларусь!
Людміла Гразнова: мы - людзі, мы грамадзяне, мы хацім быць свабоднымі і зараз мы стаім у свабодзе, увесь сьвет з намі, мы пераможам!
Зьміцер Бандарэнка аддаў свой выступ на карысьць музыкаў з гурта НРМ, каб яны зайгралі яшчэ адну песьню.
Міхаіл Чыгірь: чым боль нас, тым хутчэй сыдзе Лукашэнка. Жыве Беларусь!
Вінцук Вячорка: мы за незалежнасьць. Не дадзім ператварыць Беларусь у расейскую ваенную базу.
Людзі: Ганьба!
Усіх Запрасілі на наступную акцыю - Дзень Волі 25 сакавіка.

На пляцы распаўсюджвалі ўлёткі зь інфармацыяй аб правядзеньні Дня Волі 25 сакавіка а 12.00.
Усе выступы былі вельмі кароткімі.
Адразу зь мітынга Анатоль Лябедзька дае інтэрв'ю па тэлефоне каналу ГРТ у прамым эфіры.
Мітынг скончыўся, пачаўся канцэрт. Людзі падыходзяць бліжэй да сцэны, машуць сьцягамі.
Прэсавы цэнтар Хартыі'97 выказвае падзяку ўсім, хто сачыў за Маршам Свабоды. Заўтра мы дадзім зборную інфармацыю і фотарэпартаж з гэтае падзеі.
Са сьвятам! З Днём Канстытуцыі! Жыве Беларусь!
**20.00**
Праход па вуліцы Багдановіча скончыўся. Доўгі адрэзак каля магазіна Несьцерка калёна прайшла за 30 хв. Зараз можна з упэўненасьцю казаць, што ня меньш за 40 тысячаў чалавек, альбо нават больш, удзельнічаюць у Маршы. У наступным абнаўленьні, калі ўдзельнікі зьбяруцца на аўтастанцыі Кульман, мы паведамім вам больш дакладную лічбу. З аўтастанцыі прыбралі аўтобусы, але нават так яна ня можа зьмясьціць усіх тых, хто жадае папрысутнічаць на мітынгу.
На павароце з вул. Багдановіча на вул. Кульман была перакрытая вул. Багдановіча ланцужком з маладых хлапцоў у масках прэзыдэнта Лукашэнкі. Людзі сьмяяліся, хапалі іх за нос, але ніхто не баяўся. Шмат хто з удзельнікаў запытваліся пра здароўе Лукашэнкі. Хлапцы хапаліся за сэрца і рвалі на сабе валасы.
Лёзунг "Жыве Беларусь" добра чутны на вуліцах і рэхам адгукаецца ў парку.
Сьнег перастаў падаць, на вуліцы лёгкі мароз.
Настрой цудоўны.
Супрацоўнікі Хартыі-97 перадалі ў народ, што за імі назірае ўвесь інтэрнэт. У адказ людзі выгуквалі "Жыве Беларусь!"
**19.45**
Зараз калёна набліжаецца да мейсца правядзеньня мітынга.



**19.45**

Зараз калёна набліжаецца да мейсца правядзеньня мітынга.

На пляцы Бангалёр з парка раптоўна пачынаецца кананада - сьвяточны салют з рознакаляровых ракетаў.

У галаве калёны ідзе моладзь і палітыкі "новай хвалі".

Пайшоў вялікі сьнег, але, нягледзячы на гэта людзі працягваюць рух.

**19.30**

Калёна параўнялася з унівэрсамам Рыга. Удзельнікі дэманстрацыі ўзбуджаныя і радасныя.

На аўтобусным прыпынку адбыўся сьмешны выпадак.

Беларускае тэлебачаньне з спэцыяльнага аўтобусу высадзіла дзьвюх неахайна апранутых бабулек, якія спэцыяльна ў камэру сказалі, што калёна перашкаджае ім ісьці. Пасьля гэтага бабулек загрузілі назад і павезьлі на наступны прыпынак

Мэці Прынгал чыноўнік з Міжнароднай Амністыі ідзе равзам зь іншымі дэманстрантамі ў калёне і назірае за акцыяй. Ад імя Міжнароднай Амністыі ён вітаў удзельнікаў акцыі ў іх імкненьні да свабоды й дэмакратыі.

Колькасьць удзельнікаў павялічваецца за кошт прахожых і зараз цяжка казаць пра дакладныя лічбы. Прыкладна - гэта 30 тысячаў чалавек.

На аўтастанцыі Кульман дэманстрантаў чакае мітынг і канцэрт гурта НРМ

**19.15**

Калёна прайшла па Сурганава і зраўнялася з вуліцай Якуба Коласа. Цалкам, па адзнаках журналістаў, у шэсьці ўдзельнічае ад 20 да 30 тысячаў чалавек. Хвост калёны ўсё яшчэ знаходзіцца на скрыжаваньні вуліцаў Сурганава і Кузьмы Чорнага каля Дому Друку.

Настрой дэманстрантаў вельмі мірны, нягледзячы на дрэннае надвор'е.

Міліцыі амаль ня бачна, у асноўным яна кантактуе непасрэдна з арганізатарамі і сумесна забясьпечвае мірны ход акцыі. Ніякіх правакацыяў і фашыстоўскіх элемэнтаў не назіраецца, хаця пра гэта шмат казалася ўчора на паседжаньні гарвыканкама.

Дэманстранты выгукваюць "Жыве Беларусь!", "Перамовы!".

Настрой ў калёне вельмі спрыяльны, нягледзячы на рэзкія лёгунгі. На першым пляне выступаюць лёзунгі аб перамовах

**19.00**

Калёна дэманстрантаў прайшла па прашпэкце і зьвярнула на вуліцу Сурганава. Яна павялічылася да20 тысячаў за кошт студэнтаў з інстытуцкіх інтэрнатаў.

Прахожыя, як адзначаюць усе назіральнікі й журналісты, вельмі спрыяльна ставяцца да Марша.

Калёна выгуквае "Жыве Беларусь!" і іншыя лёзунгі, ягія глухім рэхам аддаюцца ў сьценах дамоў.

Як нам стала вядома, пасьля правядзеньня пікета салідарнасьці з Маршам Свабоды ў Брусэлі, у якім узяла ўдзел каля 50 чалавек, спадар Герд Грэйн, прэзыдэнт інстытута IFIAS і бэльгійскі партнэр Хартыі'97, заявіў наступнае:

"15 сакавіка - Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У гэты дзень грамадзяне Беларусі выйдуць на вуліцы гарадоў, каб апатрабаваць свае права на свабоду слова й мірных шэсьцяў.

Дэмакратычная супольнасьць Эўропы падтрымлівае іх законныя патрабаваньні й бачыць у Беларусі свайго будучага партнэра Жыве Беларусь!"

**18.45**

У дадзены момант калёна зварочвае на вуліцу Сурганава.

Галава калёны знаходзіцца каля Акадэміі Навук, а яе хвост каля завода Леніна, гэта амаль пляц Якуба Коласа. Зараз стала відавочна, што колькасьць удзельнікаў параўналася з колькасьцю мінулага Марша Свабоды.

Дэманстранты выгукваюць лёзунгі "Жыве Беларусь!", "Даешь выбары!".

Да дэманстрантаў далучаюцца прахожыя, якіх шмат у гэты час на прашпэкце. За шэсьцем з вокнаў інтэрната назіраюць студэнты Наргасу.

Непасрэдна ў памы эфір выходзяць журналісты расейскай і беларускай службаў радыё "Свабода".

**18.30**

Марш Свабоды пачаўся. Калёна ўдзельнікаў выходзіць з пляцу на галоўную вуліцу горада прашпэкт Скарыны. Ужо больш за 10 тысячаў чалавек у калёне.

Рух транспарта перакрыты - людзі запоўнілі ўсю шырыню прашпэкту. Першы шэраг дэманстрантаў нясе доўгі транспарант з лягатыпам і назваю акцыі на беларускай і ангельскай мовах, лёзунгі "Я люблю Беларусь", "Даеш перамовы!", "Не дапусьцім адпраўкі беларускіх міліцыянтаў у Чачню".

У натоўпе шмат маладых дзяўчатаў, якія трымаюць у руках павялічаныя малюнкі "Game over".

За імі ідзе шэраг вядомых палітычных і грамадзкіх дзеячоў. Сярод іх Валеры Шчукін, Людміла Гразнова, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі.

Акцыя яшчэ раз паказвае, што беларуская апазыцыя можа дасягаць агульных мэтаў. Не дарма ўчора, выступаючы ў сваім кішэнным парлямэньце, Лукашэнка крычаў. Рэжыму страшная менавіта аб'яднаная пазыцыя тых, хто яму супрацьстаіць. Улада разумее толькі мову моцы вулічных акцыяў.

**18.15**

У дадзены момант калёна фармуецца на пляцы Якуба Коласа. Прысутнічае шмат журналістаў і міжнародных назіральнікаў.

Настрой сярод тых, хто сабраўся добры, бадзёры. Народ працягвае падыходзіць.

**18.00**

Народу на пляцы Якуба Коласа значна павялічылася. У трох мейсцах разгорнутыя "Касы", дзе ўсе жадаючыя могуць атрымаць сувэнір - стылізаваную 100-даляравую купюру з лягатыпам Марша Свабоды замест партрэта прэзыдэнта. Гэты крок - адказ арганізатараў акцыі на прапаганду ўладаў пра тое што людзі ходзяць на масавыя акцыі з-за таго, што ім за гэта плацяць. "Грошы" раздае асабіста Аляксандар Лукашэнка.

Дакладней ягоная маска.

Над людзьмі лёзунгі "Перамовы! Перамены! Перамога!" Менавіта гэтая формула можа сёньня вярнуць Беларусь на цывілізаваны шлях. Сьцягі ўсіх дэмакратычных партыяў і аб'яднаньняў лунаюць над тымі, хто сабраўся. Зборам дэманстрантаў кіруюць Віктар Івашкевіч і Зьміцер Бандарэнка. Зараз на пляцы больш за 5 тысячаў чалавек. Народ працягвае падыходзі\ць.

17.30

Пачаўся збор удзельнікаў Марша Свабоды на пляцы Якуба Коласа ў цэнтры горада. Іх ужо больш за тысячу чалавек.

На працягу некалькіх тыдняў улады рабілі ўсё, каб не дапусьціць таго, каб інфармацыя пра гэтую акцыю дайшла да жыхароў сталіцы. Усяго ў Менску было распаўсюджана некалькі сотняў тысячаў газэтаў-улётак, дзе, акрамя інфармацыі аб Маршы, утрымліваліся палітычныя й эканамічныя навіны. На працягу двух тыдняў сьцены Менска заклейваліся налепкамі зь лягатыпам Марша Свабоды.

Інфармацыя пра Марш выходзіла ў незалежнай прэсе. У буйнейшай недзяржаўнай газэце "Народная воля" выйшла тры спэцыяльных паласы аб акцыі. Апошняя, зь вялікім рэклямовым макетам на ўсю паласу, выйшла літаральна ўчора яшчэ і ў "Нашай Свабодзе".

У дзяржаўных СІМ была разгорнутая актыўная контрпрапаганда Маршу. Удзельнікаў акцыяў "Вясны-2000" палівалі брудам са старонак газэтаў і дзяржаўнага тэлебачаньня.

Аднак людзі не пабаяліся запужваньняў і прыйшлі сёньня на пляц Якуба Коласа, каб выказаць свой пратэст рэжыму, які загнаў краіну ў палітычны і эканамічны тупік.

Улады спрабавалі схаваць нават тое, што 15 сакавіка ў Беларусі адзначаецца дзяржаўнае сьвята - Дзень Канстытуцыі.

Над паршпэктам Скарыны нават быў вывешаны вялікі плякат "15 сакавіка - дзень спажыўца" (гэтае дзіўнае "сьвята" прызначанае загадам Лукашэнкі нядаўна). Улады не жадаюць узгадваць, што ў 1994 годзе у гэты дзень была прынятая зьняважаная рэжымам Канстытуцыя.

І вось першыя бел-чырвона-белыя сьцягі паднятыя над мейсцам збору ўдзельнікаў Марша Свабоды.

### Бэнэфіс сярэдняга ўзросту

Штотыднёвік "Свободные новости" працягваюць сэрыю публікацыяў пра беларускіх палітыкаў "новай хвалі". Чарговым героем стаў адзін з заснавальнікаў Хартыі'97 Зьміцер Бандарэнка.

Ёсьць унівэрсальная схема перахода ад дыктатуры да дэмакратыі мірным шляхам. Яна дастаткова эфэктыўна была рэалізаваная ў Вэнгрыі, Чэхіі, Польшчы, Баўгарыі. Лічу, трэба ісьці гэтым шляхам і нам.

Па-першае, максымальны ахоп альтэрнатыўнай інфармацыяй насельніцтва нашай краіны. Праз радыёстанцыі. Праз сыстэму разьмеркаваньня незалежнай прэсы.

Па-другое, міжнародны ціск.

Па-трэцяе, расшатваць рэжым правядзеньнем масавых акцыяў. Толькі празь іх насельніцтва становіцца грамадзянамі.

Па-чацьвертае, прымус ураду ісьці на перамовы, арганізацыю "круглага стала".

**Працяг на ст. 4**

**МАРШ СВАБОДЫ Ў ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ**
**Працяг**

Па-пятае, стварэньне пераходнага ўраду з удзелам апазыцыі.

Па-шостае, правядзеньне свабодных і справядлівых выбараў.

Важна зазначыць, што ні ў якім разе пры рэалізацыі гэтае схемы ў жыцьцё нельга пераскокваць праз які-небудзь пункт.

У 1997 годзе ў Сэрбіі, напрыклад, дэмакраты пайшлі на выбары на ўмовах дыктатара. І ў выніку прайгралі. І ўсе іх масавыя акцыі пратэсту пасьля гэтага акзаліся, па вялікім рахунку, НЕПАТРЭБНЫМІ. Рэжым быў легітымізаваны. У Баўгарыі ж, насупраць, апазыцыя, як кажуць, сыграла як па нотах. І ў 1998 годзе ў гэтай краіне да ўлады зноў прыйшлі дэмакраты.

**Па матэрыялах Хартыі '97**

## МАРШ СВАБОДЫ: ПЫТАНЬНІ І АДКАЗЫ

Навошта нешта зьмяняць, калі ў нас спакойна, пеньсіі й заробкі выплочваюць у час ня так як, напрыклад, у Расеі.

Так, можна жыць спакойна, як у багне ня маючы ніякіх пэрспэктываў на будучыню. Нашыя ўлады спрабуюць затуманіць мазгі народу, параўноўваючы быццам бы спакойнае жыцьцё ў Беларусі з жыцьцём, напрыклад, з Расеяй. Але навошта нас параўноваюць з Расеяй, калі мы можам жыць ня горш чым у Польшчы і Прыбалтыцы, дзе людзі набываюць уласныя дамы і машыны. Вельмі часта нам падсоўваюць ідэю, што ў Беларусі ўсё вельмі добра, бо ў час плоцяць пеньсіі й заробкі. Але палічыце гэтыя пеньсіі й заробкі, паглядзіце як яны зьменьшыліся за апошні час. Калі б заробкі й пентсіі былі такія як тры гады таму, дык яны ў час не выплочваліся б. Няўжо мы будзем радавацца і ў наступным годзе рэгулярнаму атрыманьню пеньсіі й заробка, але ўжо ўдвая меньш, чым сёньня.

Навошта наагул патрэбныя масавыя акцыі, яны ж нічога не вырашаюць?

Наадварот, масавыя акцыі вырашаюць вельмі шмат. Беларускае тэлебачаньне ўвесь час кажа, што народ задаволены й падтрымлівае Лукашэнку, хаця на самой справе ўсё наадварот. Баларусам, калі яны жадаюць жыць лепш, не пазьбегнуць шляху, які прайшлі Чэхія, Польшча, Славакія, Венгрыя. Безумоўна, лягчэй нічога не рабіць альбо шаптацца на варыўнях. Толькі масавыя маніфэстацыі прымушаюць улады пачуць голас народа і пайсьці на перамовы аб правядзеньні справядлівых і свабодных выбараў пад міжнародным кантролям.

У адваротным выпадку нас чакае чарговы выбарчы фарс і кансэрвацыя дыктатуры на доўгія гады. Беларусы маюць рэальную магчымасьць вайсьці ў новае тысячагодзьдзе без дыктатуры.

Я б пайшоў на Марш Свабоды, але баюся, што могуць зьбіць і забраць ў міліцыю:

У першым Маршы Свабоды 17 кастрычніка 1999 года ўдзельнічала 30 тысячаў чалавек. Людзі не пабаяліся і выйшлі на вуліцу. Бо зразумелі, што жыцьцё трэба рабіць сваімі рукамі.

Калі Вы баіцеся, дык сядзіце дома і ня жальціся, што Вам дрэнна жыць. Ва ўсіх краінах, калі ўзьнікаюць праблемы, што кранаюць большасьць насельніцтва, людзе выходзяць на вуліцы і пратэстуюць, абараняючы свае інтарэсы. Паглядзіце на аўстрыйцаў, -- прыход ва ўрад чарговага прыхільніка Гітлера прымусіў сотні тысячаў грамадзянаў маленькай Аўстрыіі выйсьці на вуліцы. Дыктатуры ня падаюць самі па сабе. Калі Вы гэта разумееце, дык прыходзьце 15 сакавіка на Марш Свабоды і нікога ня бойцеся - улада сама нас баіцца.

Так, Лукашэнка ня мае падтрымку ў народа, але ў яго ў руках вэртыкаль і сілавыя структуры.

Становішча з вэртыкальлю й сілавымі структурамі ў любы момант можа зьмяніцца. Там працуюць і служаць таксама шмат нармальных людзей, якія усё цудоўна разумеюць. У нармальных размовах з супрацоўнікамі міліцыі, яны кажуць: "калі вас выйдзе сто тысячаў на вуліцы, мы пойдзем у казармы - намнадакучыў увесь гэту дурдом". Узгадайце хаця б прыклад міліцыянта Алега Батурына, які не пабаяўся сказаць праўду.

Я вучуся ва унівэрсытэце і баюся, што за ўдзел у Маршы Свабоды мяне могуць выключыць з ВНУ.

Ведайце, што ў такім выпадку ў Вас ёсьць добрая альтэрнатыва. Праскі й Кракаўскі ўнівэрсытэты далі больш ста мейсцаў для беларускіх студэнтаў, адлічаных зь беларускіх ВНУ за ўдзел у апазыцыйнай палітычнай дзейнасьці. Скарысталіся з гэтага шанца пакуль толькі адзінкі. Дарэчы, у Беларусі дзейнічае сыстэма калектыўнай бясьпекі грамадзянаў. Кожнаму, хто пацярпеў ад незаконных дзеяньняў рэжыму, праваабарончыя арганізацыі аказваюць рэальную юрыдычную, інфармацыйную і матэрыяльную дапамогу.

Чаму апазыцыя робіць стаўку на масавыя акцыі, а не на выбары?

Дадзеныя сацыялягічных апытаньняў паказваюць, што апазыцыйныя Лукашэнку партыі на свабодных і справядлівых выбарах атрымалі б сёньня да 80% галасоў у Менску, а па Беларусі - 50-60%. Пра гэта цудоўна ведае Лукашэнка. Таму ён і пабаяўся пайсьці на перамовы з апазыцыяй пры пасярэдніцтве АБСЭ і рыхтуе чарговы выбарчы фарс па Выбарчым кодэксе, які не прызнаны міжнарднымі структурамі.

Масавыя акцыі патрэбныя, каб перамовы адбыліся. Тады выбары стануць сапраўды свабоднымі і будуць прызнаныя міжнароднай дэмакратычнай супольнасьцю.

На жаль, шмат хто з маіх знаёмых ня здолелі прыняць удзел у Маршы Свабоды-1, бо мала ведалі пра тое, што гэта падзея рыхтуецца.

Маеце рацыю. Улада баіцца свабоднага слова і блякует інфармацыю. Але Вы самі можаце ўжо сёньня паведаміць сваім знаёмым па тэлефоне пра "Марш Свабоды-2", які плянуецца 15 сакавіка і пра іншыя акцыі аб'яднаных дэмакратычных сілаў.

Некаторыя мае знаёмыя кажуць так: "Мы простыя людзі і ад нашай думкі нічога не залежыць". Я разумею, што гэта не так, але як мне іх пераканаць?

Хутчэй за ўсё Вашыя знаёмыя ўсё




разумеюць. Але яны шукаюць адгаворку. Большасьць людзей зьвязаная ня жахам, а лянотай і апатыяй. Не спрабуйце пераканаць усіх, шукайце новых прыхільнікаў. Мне часта прыходзіцца спрачаца са сваімі бацькамі, у якіх адное пытаньне: "Хто замест Лукашэнкі?".

Не спрачайцеся са сваімі бацькамі. Яны сумленна прапрацавалі ўсё жыцьцё, яле іх безсумленна падманвалі кіраўнікі. Ім далі жабрацкую пеньсію і яны сёньня жахліва існуюць. Толькі Вы можаце ім дапамагчы.

Што ж тычыцца Лукашэнкі, дык узгадайце, што да свайго прэзыдэнцтва ён быў дырэктарам адсталага саўгаса. Вы самі можаые назваць шмат разумнейшых, адукаваных, вартых людзей як сярод дэмакратычнай апазыцыі, так і сярод сваіх знаёмыхю.

Пасьля ліста міліцыянта Батурына, я зразумеў, што првакацыі на Маршы Свабоды-1 былі арганізаваныя уладамі. Ці не баіцеся Вы, што яны могуць паўтарыцца?

Ніякіх правакацыяў мя не дазволім. Больш за тое, мы разумеем, што сярод міліцыянтаў ёсьць шмат вартых людзей, якім няма сэнсу ўдзельнічаць у антыканстытуцыйных дзеяньнях і ахвяраваць сваёй будучай кар'ерай.

**"Народная воля", 25 сакавіка 2000 года**

# Дзень Волі-2000

## Сьвяткаваньне ў Менску



**Беларусь!**

Ужо восемдзесят другі год беларусы блізу ва ўсім сьвеце адзначаюць нашае нацыянальнае сьвята, 25 сакавіка ладзяцца ўрачыстыя паседжаньні і канцэрты, над мэрыямі шмат якіх гарадоў лунае бел-чырвона-белы сьцяг, дзеньгэты абвяшчаецца Беларускім Днём пэўнага штату ці' правінцыі, і нашыя суайчыньнікі прымаюць віншаваньні ад вышэйшых кіраўнікоў краін, дзе лёс наканаваў ім знайсьці прытулак.

Толькі ж у Менску — месьце найболей зьвязаным зь гістарычнаю падзеяй 72-гадовае даўнасьці — дзень гэты афіцыйна не вылучаўся дагэтуль паміж іншых. То ж вернемся ў думках на 80 гадоў назад, калі першы раз Сьвята Незалежнасьці адкрыта, вольна і шырака адзначалася ў нашай цяперашняй сталіцы.Настаў час аднавіць традыцыю і вярнуць народу— побач зь сьцягам, гэрбам і гімнам — неадметны атрыбут незалежнае дзяржаўнасьці.

Вось што пісала ў сакавіку 1920 года менская штодзенная газэта «Беларусь»

«25-га сакавіка ў памяць другой гадаўшчыны абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ў беларускай каталіцкай капліцы кс. прафэсар Абрантовіч гаварыў урачыстае казаньне, пасьля якога адбылося набажэнства, хор вельміпрыгожа сьпяваў рэлігійныя беларускія песьні.

Капліца не магла патоўпіць усіх беларусаў-каталікоў з розных беларускіх арганізацыяў. На набажэнстве былі таксама і дзеці каталі- кі зь беларускіх прытулкаў, на грудзях якіх красаваліся беларускія нацыянальныя значкі.

Адбылося таксама ўрачыстае набажэнства ў праваслаўным саборы. Сабор быў перапоўнены. Прысутнымі былі члены Рады, Беларускай Вайсковай Камісіі і іншых беларускіх арганізацыяў; усе з нацыянальнымі значкамі. Былі таксама дзеці усіх беларускіх школ і прытулкаў з настаўнікамі (да 2500 дзяцей).

Перад набажэнствам казаў урачыстае казаньне па-беларуску благачынны сьвяшч. Біруля, які выказаў значэньне акту абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году, казаў аб тым, што ўсе сыны нашага краю павінны аддаць усе свае сілы дзеля лепшай будучыні нашай маці-Беларусі.

На набажэнстве сьпяваў у поўным складзе беларускі хор Тэраўскага. А 6-ай гадзіне ўвечары адбыўся ў Беларускім доме ўрачысты сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту з прадстаўнікамі ўсіх беларускіх арганізацыяў.

Сход адчыніў урачыстай прамовай старшыня Бел. Нац. Камітэту К. Тарэшчанка. Пасьля прамовы п. Тарэшчанка прачытаў беларускую Устаўную Грамату. Усе прысутныя слухалі гэту Грамату стоячы. Пасьля гэтага выступалі з прамовамі беларускія дзеячы: прафэсар В. Іваноўскі коратка перадаў гісторыю беларускага руху з пачатку 90-х гадоў мінулага веку да апошняга часу. Прафэсар кс. Абрантовіч гаварыў аб тым, як каталіцкае духавенства спрычынілася да беларускай справы. А. Смоліч гаварыў аб беларускім руху за ўвесь час вялікай вайны. Рак-Міхайлоўскі знаёміў з працай Беларускай Вайсковай Рады, якая пачала сваю працу у 1917 годзе. У канцы К. Тарэшчанка зачыніў сход урачыстымі словамі аб тым, што рух беларускі расьце і павялічваецца з кожным днём. Асьведамляюцца сілы, растуць беларускія школы, розныя беларускія культурныя арганізацыі і будуецца беларускае незалежнае жыцьцё.

Сход зачыніўся а 8-ай гадзіне ўвечары.»

**Падрыхтаваў Сяргей ШУПА**

## Чаму 25 сакавіка?

Як вядома, увесну-2000 беларуская апазіцыя ладзіць некалькі масавых мерапрыемстваў, што маюць на сваёй мэце паказаць свету імкненне нашага народа да сапраўднай незалежнасці і дэмакратыі. Так, 15 сакавіка ва ўсіх буйных цэнтрах Беларусі адбыўся Марш Свабоды ІІ. Надалей адбудуцца наступныя акцыі: 25 сакавіка -- Дзень Волі, 26 красавіка -- Чарнобыльскі Шлях, 1 траўня -- Дзень Салідарнасці.

Захады апазіцыі падтрымліваюцца вялікай часткай насельніцтва. Народ глыбока адчувае патрэбу ў дзеяннях, якія б дапамаглі змяніць бягучае кепскае як палітычнае, так і культурнае становішча ў краіне. Людзі тысячамі выходзяць на вуліцы: на шэсці і мітынгі. Беспрацоўныя, бізнэсоўцы, навучэнцы, рабочыя, навукоўцы -- усе становяцца ў адзін рад дзеля дасягнення агульнае мэты.

Наступная буйная акцыя -- Дзень Волі -- адбудзецца 25 сакавіка. Безумоўна, што і ў гэты дзень разам збярэцца велізарная колькасць праціўнікаў пануючага рэжыму. Але шмат у каго з'яўляецца пытанне: а чым жа адметная менавіта гэтая лічба першага веснавога месяца? Мы правялі невялікі апыт і зрабілі выснову, што вельмі няшмат беларусаў ведаюць адказ на гэтае пытанне, што з'яўляецца вынікам палітыкі па знішчэнні нацыянальнай самабытнасці нашага народа, якая праводзілася доўгі час урадам СССР. З гэтае сумнае нагоды і з'явіўся дадзены артыкул, які распавядзе вам, нашым шаноўным чытачам, крыху пра рамантычныя падзеі, што мелі месца на Беларусі пасля камуністычнай рэвалюцыі ў Расейскай Імперыі.

Пасля Кастрычніка ў Расеі быў абвешчаны лозунг аб вольным самавызначэнні народаў былой Расейскай Імперыі. Гэта падштурхнула палітычныя грамадскія арганізацыі Беларусі (якая лічылася тады яшчэ неад'емнай часткай Расеі) да рашэння нацыянальнага пытання. Таму 5 снежня некалькі грамадскіх аб'яднанняў заарганізавалі Усебеларускі з'езд, у якім удзельнічалі 1872 дэлегаты. Бальшавікі далі дазвол на яго правядзенне і нават вылучылі пэўную суму грошай арганізатарам дзеля забеспячэння шматлікіх выдаткаў на ежу, жытло для дэлегатаў ды іншых. Але калі 17 снежня з'езд абвясціў аўтаномнасць Беларусі ў складзе Расейскай Федэратыўнай Рэспублікі і прыняў пастанову аб стварэнні краёвай улады -- Усебеларускага Савета дэпутатаў, чым, фактычна, адмовіўся прызнаваць паўнамоцтвы бальшавіцкага Аблвыканкамзаха, дэлегатаў разагналі войскам, а шмат каго з актывістаў кінулі за краты. Пасля гэтага, Рада з'езда мусіла кіраваць нацыянальным рухам з падполля.

Але ў хуткім часе пачалося наступленне нямецкіх войскаў, і Аблвыканкамзах, не здолеўшы абараняць Беларусь, 19 лютага 1918 года эвакуіраваўся ў Смаленск. Скарыстаўшы зручны момант, Рада з'езда 21 лютага стварае першы ўрад Беларусі ў складзе 15 чалавек, які па 25 лютага (калі бальшавікі ўцяклі, а немцы яшчэ не прыйшлі) працаваў цалкам самастойна. Гэта былі 5 дзён нашае сапраўднае незалежнасці -- мара, якая так раптоўна матэрыялізавалася, і так жа раптоўна знікла... Але яшчэ надоўга засталася ў сэрцах беларусаў і спраўдзілася ўжо праз 70 год. 21 лютага 1918 года Выканкам Рады прыняў І Устаўную грамату, у якой абвясціў сябе часовай уладай у краі.

**Працяг на ст 6**

## Чаму 25 сакавіка? працяг

9 сакавіка была агучаная II Устаўная грамата, што зазначала стварэнне Беларускае Незалежнае Рэспублікі (БНР). Але ўсё ж фармальна нашая дзяржава заставалася тэрыторыяй Расіі.

Таму, пасля ночы напружанай працы Рады, раніцай 25 сакавіка з'явілася III Устаўная грамата, якая канчаткова вызначала Беларусь як незалежную краіну. Дзякуючы гэтаму акту, так ці інакш БНР была прызнаная наступнымі дзяржавамі: Украінай, Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, Чэхаславакіяй, Балгарыяй, Фінляндыяй, Турцыяй.

Падчас сваёй працы Урад БНР паспеў зрабіць шмат чаго карыснага. Былі створаныя беларускія школы і гімназіі, заснаваныя Каталіцкая духоўная семінарыя і Беларуская кансерваторыя, друкаваліся кнігі і падручнікі, ствараліся культурныя ўстановы і навуковыя таварыствы, вялася падрыхтоўка да адкрыцця Беларускага універсітэта, былі зацверджаныя нацыянальныя сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг, герб "Пагоня" і гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пазней камуністы зноў усталявалі сваё панаванне на нашае тэрыторыі, але да ўзгаданых вышэй падзей яны нават не збіраліся прызнаваць Беларусь як краіну. І хто ведае: мо, калі б не БНР, мы б і дагэтуль былі часткай Расеі...

*Манцэвіч Яраслаў, спецыяльна для "Верас'*

## «Искони русские земли»

1000 гадоў беларускай гісторыі мы адлічваем ад 980 года, ад першай самастойнай беларускай дзяржавы -- Полацкага княства. Пасьля была фэдэрацыя Беларусі зь Літвой у Вялікім княстве Літоўскім, пасьля -- фэдэрацыя з Польшчай у Рэчы Паспалітай. У канцы XVII I стагоддзя Рэч Паспалітая была падзеленая трыма суседнімі імпэрыямі. Беларусь страціла сваю дзяржаўнасьць і сувэрэнітэт і дасталася імпэрыі Расейскай.

Цяпер давайце падлічым. 800 гадоў сваёй гісторыі Беларусь жыла асобна ад Расеі і была незалежнай фэадальнай дзяржавай. Гэты час пазначаны ўсебаковым разьвіцьцём нашага краю, залатым векам беларускай культуры і навукі, самым дэмакратычным і дасканалым у тагачаснай Эўропе кодэксам права — Статутам Старабеларускае дзяржавы XVI ст. Гэты ж час назначаны для нас амаль бясконцымі войнамі з усходнім суседам — Маскоўскай дзяржавай. А цяпер параўнаем: 800 гадоў адкрытай варожасьці і 200 апошніх гадоў «брацтва» і «дружбы», 800 гадоў сувэрэнітэту і 200 гадоў «искони русских земель», 800 гадоў нацыянальнага разьвіцьця і багацьця — І 200 гадоў заняпаду, хлусьні і бяспамяцтва. Нельга, вядома, пераносіць зарожасьць дзьвюх фэадальных дзяржаў на адносіны беларуса і расейца, нашых народаў і культур. Але ж нельга ператвараць гэтыя адносіны ў «спрадвечную любоў», «крэўнае братэрства» і г. д. Нельга забывацца на ўласную гісторыю.

А ў нас атрымалася так, што сёньня ўжо мала хто ведае, што да канца XVIII ст. Масква ніколі не была нашай сталіцай, альбо што зь Іванам Жахлівым (Грозным) і Пятром І мы, беларусы, былі ў розных дзяржавах, што гэта ня нашы цары і ня наша гісторыя. А якая ж тады наша? Гэта асобная гаворка. Сёньня мы возьмем з беларускай гісторыі толькі некалькі момантаў, якія тычацца беларуска-расейскіх дачыненьняў.

...Полацкая зямля першая вырвалася зь "імпэрыі Рурыкавічау», адваявала сваю незалежнасьць. Затым і ўся Кіеўская дзяржава разваліласяна дробныя часткі. Надта ж розныя этнасы спрабавала яна ахапіць.

Імпэрыі ўжо не існавала, калі далёка на ўсходзе, у вярхоўях Волгі ды Акі паўстала Залеская Русь — новы каланізаваны славянамі рэгіён. У сярэдзіне XII ст. там зьявіўся горад Масква. Назва Русь замацавалася за гэтым краем толькі ў XIII ст. Калі беларускія землі аб'ядналіся з этнічнай Літвой у агульную дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае, Усходняя Русь ляжала яшчэ зьнясіленая ад мангола-татарскага наезду. У такіх умовах не без падтрымкі ардынскіх ханаў Масква выйшла ў лік першых гарадоў, а маскоўскі князь, дапамогшы татарам задушыць цьверскае паўстаньне. Заслужыў у хана ярлык на вялікае княжаньне.Гэтак Русь рабілася Вялікай. Дзеля ідэалягічнага абгрунтаваньня захопніцкай зьнешняй палітыкі (а яна называлася «узьяднаньнем») і была створана дактрына, паводле якой Масква — сталіца «усея Русі», адзіная паўнапраўная спадкаеміца былон дзяржавы Рурыкавічаў (хоць, нагадаю, у часы існаваньня гэтай Імпэрыі Масквы яшчэ не было).

Пад канец XV ст. у рашучым зьбіраньні земляў Маскоўскае княства выйшла да мяжы беларуска-літоўскай дзяржавы. У лясных гушчарох, ля самых вытокаў Дняпра сутыкнуліся два сьветы, дзьве мала падобныя цывілізацыі. Дзяржаўная мяжа, што пралягла тут, падзяляла розныя палітычныя сістэмы, цэнтрамі якіх былі Масква і Вільня. У Маскве мацнела неабмежаваная ўлада «государя і дэспатыя азіяцкага кшталту, апірышчам якой быў фанатызм урадавай рэлігіі ды тэрор супраць уласнага народу, у Вільні — шырыліся вольнасьці, квітнела рэлігійная і нацыянальная талерантнасьць, культура. Нямецкі пасол Герберштэйн напісаў, наведаўшы абедзьве краіны, што ў Масковіі "знаходзяць больш задавальненьня ў рабстве, чым у свабодзе», а у Вялікім княстве «ня столькі карыстаюцца няўмеранай свабодай, скольки злоўжываюць ёю».

Сутыкненьне гэтых вялікіх дзяржаў азначала непазьбежнасьць войнаў. І распачаў іх той, хто прагнуў новых земляў. Вялікі князь маскоўскі Іван III кінуў свае войскі на Княства ў 1492 г. Тое ж ён паўтарыў у 1494, а ў 1500—1503 правёў вялікую вайну. Паступнік Івана Васіль III вёў войны зь беларуска-літоўскай дзяржавай у 1507—1508, 1512—1522 і так, зь невялікімі перапынкамі ажно да 1537 года. Пасутнасьці гэта былі беларуска-расейскія войны. Паасобныя аддзелы маскоўскага войска ў спусташальных рэйдах даходзілі да Друцка, Барысава, Менска.

Каб апраўдаць экспансію ідэалягічна, маскоўскі двор узброіўся адмысловай тэорыяй «Масква — трэці Рым, а чацьвёртаму ня быць». Маўляў, Масква — сусьветны цэнтр хрысьціянства, які пераняў гэтую ролю ад Візантыі і больш нікому не аддасьць, што маскоўскія ўладары абраныя богам, што ім належыць вялікая місія абаронцаў праваслаўя.

Акрыленая ваеннымі посьпехамі ды сваёй вялікай місіяй Масковія разам са Сьвяшчэннай Рымскай Імпэрыяй ўтварыла шырокую кааліцыю супраць Вялікага княства і Польшчы.

Па дамове 1514 года, прынятай у Крамлі, тэрыторыя Беларусі ды Украіны павінна была адыйсьці да Маскоўскай дзяржавы, а Імпэрыя забірала сабе частку Польшчы. Толькі дзякуючы велікапышнай перамозе беларускага гэтмана Кастуся Астроскага пад Воршай, дзе ён з 21 тысячай войска разьбіў у чатыры разы большую армію маскоўскіх ваяводаў, кааліцыя распалася і плян падзелу застаўся на паперы.

Мацнела Маскоўская дзяржава, узмацняўся і яе націск на захад. Масковія назвала сябе Вялікай Русьсю, пасьля Расеяй, а землі заходняга суседа «исконно русскими». Вайну за вайной несла гэтая палітыка Беларусі. Вайна, якую вёў за Беларусь і Украіну расейскі цар Аляксей Міхайлавіч, забрала большую палову нашага жыхарства, абярнула ў руіны нашыя гарады, разбурыла гаспадарку. Цар абвяшчаў што ідзе вызваляць праваслаўных хрысьціян і Русь, але ў лістах да сваіх ваяводаў называў нашыя гарады «полскими», загадваў выпальваць іх дашчэнту, унармаваў масавыя забойствы і нябачаныя раней па маштабах захопы нявольнікаў.

Толькі ў канцы XVIII ст., калі Рэч Паспалітая была разадраная на часткі, ажыцьцявілася праграма, якую вякамі не маглі зьдзейсьніць маскоўскія манархі: Беларусь стала часткай расейскай імпэрыі. Акт гвалтоўнае анэксыі быў названы «узьяднаньнем», а ўсёй Эўропе абвяшчалася, што беларусы — «русское племя». Між тым, калі царскія акупацыйныя ўлады адкрылі для сябе сапраўдную Беларусь, дык ухапіліся за шырокую і цяжкую працу па грунтоўнай русіфікацыі нашага краю. Толькі губэрнатар Мураўёў-Вешальнік пасьля колькіх гадоў сваёй крывавай дзейнасьці змог рапартаваць, што "с помошью русских деятелей дело присоединения этого края к России значнтельно продвннулось вперед». У дакументах тых часоў скрозь чытаем: «Русские чиновники ежедневно приезжают сюда со всех концов России и поступают здесь на службу; родная русская речь стала слышаться всюду»...

Аднак не перарабілі Беларусь на «истинно...» нават адкрытым душэньнем ейнага нацыянальнага жыцьця.
Не пасьпелі — нават за сто гадоў упартай русіфікацыі. За гэтыя сто гадоў наша Бацькаушчына аж тройчы выбухнула магутнымі антыімпэрыялістычнымі паўстаньнямі, а як толькі Расейская імпэрыя затрашчала ад націску рэвалюцыйных рухаў XX стагоддзя, Беларусь паўстала да нацыянальна-палітычнага змаганьня,да ўласнага дзяржаўнага будауніцтва...

**ГЕНАДЗЬ САГАНОВІЧ ("Дзень Волі")**

# Змаганне

Днямі ў Віцебскай прэсе прайшло паведамленне пра затрыманне маладога чалавека, які быў абвінавачаны ў дробным хуліганцтве: маляванні на сценах алейзавода, што на Маркаўшчыне, нітрафарбай лозунгі антыпрэзідэнцкага і дэмакратычнага зместу. Гэтым хлопцам аказаўся Юрась Землякоў, сябра ВСМ "Верас". Таму нам было не цяжка ўзяць у яго інтэрвію. Спадзяемся, што яно будзе для вас цікавым.

-- Прывітанне, Юрась. Дык распавядзі нам, што адбылося на самой справе, бо у людзей, якія прачыталі артыкул у афіцыйнай газеце "Віцебскі рабочы", можа скласціся непраўільнае ўражанне пра гэта.

-- Так, пачну з пачатку. 16 лютага гэтага года я са сваім знаёмым вырашыў прагуляцца. Мы сустрэліся ў цэнтры горада і накіраваліся на Маркаўшчыну. Такім чынам, мы дабраліся да алейнага завода. Ужо сцямнела. Было каля шасці гадзінаў вечара. Менавіта ў гэтым месцы мне прыйшла думка заняцца графіці. Для гэтай справы ў мяне ўжо быў падрыхтаваны балончык з чырвонай нітрафарбай. Я думаю, што яна ўсім вядомая, таму што амаль кожны уладальнік аўтамабілю выкарыстоўвае яе, каб падмазаць, падфарбаваць сваё аўто. Месца было даволі зручнае. Працоўны дзень ужо скончыўся, і на вуліцы было мала людзей. Я абраў момант, калі амаль што не было ніякіх машын і трамваяў. Дастаю балончык і белыя хірургічныя пяльчаткі, каб не запэцкацца. Пачынаю пісаць лозунгі...

-- А што за лозунгі былі?

-- Першы лозунг: "Аб'яднанне з Расеяй -- гэта смерць нам". Вы не падумайце, што я меў на ўвазе прамое значэнне. Я выказваў думку, што Расія можа нас, беларусаў, "праглынуць" пры аб'яднанні. Беларусь зноўку пачне называцца "Северо-Западный край", а беларусы згубяць сваю мову, культуру, нацыю... Мы можам знікнуць як народ.

Потым, на плоце алейнага завода я зрабіў іншы надпіс: "Лука выпіў увесь алей". На першы погляд, надпіс цалкам бязглузды, але гэтая бязглуздасць і прываблівае людзей, прымушае іх думаць. Пойдзе чалавек у краму за алеем, а там яго няма, затое амаль што ў кожнай -- партрэт нашага Першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Адразу ж з'яўляецца думка: куды ж падзеўся алей, хто яго выпіў?

Ну, і апошні - "Лука -- расійскі наймiт". На маю думку, сп. Лукашэнка зусім не клапаціцца аб незалежнасці нашай краіны, што выгадна расійскім уладам. Ён увогуле здаецца мне марыянеткай у руках "старэйшага брата".

-- А потым?

-- А потым было даволі цікава... Не паспелі мы адысці і трыццаці метраў па вуліцы Герцана, як на трамвайным прыпынку да нас на вялікай хуткасці пад'ехала чырвоная машына замежнай вытворчасці. Адтуль выскоквае міліцыянт і нейкі чалавек у цывільным. Яны кідаюцца на майго сябра і валяць яго на зямлю. Літаральна секунда -- і я ўжо перабягаю дарогу і бягу ў двары. Тут я заўважыў, што за мной пабег нейкі малады чалавек з супрацьлеглага боку вуліцы. Адначасова за мной рушыў той самы аўтамабіль. Канешне ж, мяне схапілі, пасадзілі ў машыну, у якой ужо знаходзіўся мой сябар. Нас павезлі ў пастарунак.

-- Гэта ў той, што знаходзіцца на Чарняхоўскім праспекце?

-- Так, у Першамайскі РАУС. Дарэчы, калі нас везлі, адзін міліцыянт перадаў па рацыі "Мы іх вязем". Гэта сведчыць пра тое, што за намі сачылі, і гэта была спланаваная аперацыя.

Калі нас прывезлі, мы былі абшуканыя і не адзін раз, пасля чаго -- дзяжурны пакой. Адтуль нас паасобку павялі на допыт. Пасля чаго каля паўтары гадзіны мы правялі ў КПЗ.

-- Чым жа ўсё гэта скончылася?

-- Яшчэ невядома. Хутка будзе суд. Абвінавачваюць мяне па 156 артыкуле Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях (дробнае хуліганцтва).

-- Якое можа быць пакаранне?

-- Ведаеце, можа быць накладзены штраф у памеры да дзвюх мінімальных заробкаў ці арышт да 15 сутак. Але, як кажуць, прысудзіць могуць усё...

-- Ну добра, калі што, абавязуемся насіць перадачы!

Жарт, канешне.

-- Добра, буду мець на ўвазе!

**З Юрасём гутарылі Андрэй Парфёнаў і Яраслаў Манцэвіч.**

**Каментар рэдакцыі:**

Мы вырашылі прааналізаваць гэты выпадак з прававога пункту гледжання і прыйшлі да высновы, што з боку супрацоўнікаў міліцыі было некалькі правапарушэнняў.

Першае гэта тое, што пры затрыманні яны не прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі. Дакладней, яны зусім ніяк не прадставіліся. А цяпер уявіце сабе карціну. Вы стаіце з сябрам на вуліцы. Цёмна. Тут да вас з віскам тармазоў пад'язджае аўтамабіль вытворчасці Захаду з прыватнымі нумарамі, адтуль выскокваюць людзі (першы -- ў цывільным) і моўчкі кідаюцца на вас, каб паваліць на зямлю. Навокал амаль нікога. Канешне, першая рэакцыя -- бегчы. Зразумела, супрацоўнікі міліцыі павінны былі паведаміць, хто яны. Пажадана было б пасля затрымання паказаць пасведчанні. Нічога такога зроблена не было.

Па-другое, затрыманых хлопцаў абшуквалі цэлых тры разы. Да пускай абшукваюць, калі ласка, але ёсць вызначаныя законам нормы гэтай працэдуры, якія, як вы разумееце, вытрыманыя не былі. Нагадаем, што любы вобыск робіцца пры абавязковай наяўнасці двух панятых. Прычым, калі адбываецца вобыск непасрэдна затрыманага (а не яго рэчаў), панятыя маюць быць таго ж полу, што і абшукваемы.

Трэцяе. Адразу пасля прывозу затрыманых ім трэ даваць магчымасць патэлефанаваць сваякам ці знаёмым. А ў нашым выпадку, калі Юрась яшчэ непаўналетні (яму 17 год), дык міліцыянты самі павінны былі паведаміць яго бацькам пра тое, што адбылося. Дык гэта не тое, што не зрабілі адразу, як патрабуе закон. Гэта не зразбілі зусім.

Чацвёртае. Аніякіх іхных правоў затрыманым хлопцам не растлумачылі. Ім, напрыклад, не сказалі таго, што яны могуць наогул нічога не казаць і не падпісваць. Зусім нічога. Гэта дазваляе закон. Але на самой справе было зроблены наступнае: Юрасёвы следчы мягка, але ўпэўнена псіхалагічна надавіў на яго, і той прызнаўся ў правапарушэнні і паставіў подпіс пад пратаколам. Што ж мы маем зараз? А зараз мы маем суд, які неўзабаве адбудзецца. І абвінаваўцам не прыйдзецца нічога даказваць, бо ў іх ёсць прызнанне Юрася з яголым подпісам. А інакш ім бы прыйшлося вельмі цяжка папрацаваць, каб знайсці доказы.

Мы не юрысты, але з першага погляду знайшлі вунь колькі парушэнняў правоў затрыманых. А калі б мы звярнуліся да прафесійнага адваката?..

На вялікі жаль, Юрась катэгарычна адмовіў нашую прапанову абскардзіць дзеянні міліцыянтаў у судзе ці хаця б напісаць скаргу. А было б варта гэтае зрабіць.

Пра працяг гэтай гісторыі, які адбудзецца ў судзе, чытайце ў наступных нумарах бюлетэня "Верас".

**25 сакавіка ў 15.30 у скверы ля плошчы Леніна адбудзецца шасцідзесяціхвілінны мітынг з нагоды Дня Волі. Акцыя санкцыянаваная Віцебскім гарвыканкамам.**

Как известно, президент поставил перед своей командой задачу — в короткие срокн органнзовать в республике вещанне второго общенационального канала.

Причастным работникам предстоит в сжатые сроки решить целый комплекс проблем — технических. творческих и, главное, идеологических. Ведь задача канала — не просто развлекать зрителей, но, в первую очередь, доказывать преимущества политики Александра Лукашенко и параллельно уличать противников Александра Григорьевича в человеческой ничтожности, психологической ущербности и умственной неполноценности. Все это должно подаваться в приятной глазу и уху ненавязчивой форме,которая помогала бы населению приобщаться к идеалам рыночного соцмалнзма, любви к хоккею, ненависти к блоку НАТО н пониманию бессмысленности требова- нний всевозможных зарубежных зануд-дипломатов. Одновременно на БТ-2 должна постоянно проводиться та же мысль, что и в передачах БТ-1: кроме президента, Беларусь никто не любит, кроме президента, умных людей в Беларусн нет, кроме презвдента, в Беларуси вообще никого нет.

Работа по созданню второго канала ндет полным ходом. Говорят, БТ-2 частично перекроет ОРТ: зрители, которые ждут очередную порцню "Нежного яда", получат вместо любнмого сериала дналог с оппозицией, например, н перенесут отрицательные эмоцнн на оппозиционеров.Если так -- согласитесь, прмдумано разумно.

"Рабочы" решил помочь создателям нового канала.Мы предлагаем примерную сетку вещания. Составить ее помогрегулярный просмотр передач БТ н отзывы о его работе о'г рядовых телезрителей — наших друзей, знакомых, соседей, родственников. Учтены н московскиеобразцы; регулярные баллады ОРТ о г. Путине.

9,00,11.00,13.00.17.00, 19.00, 21.00,00.00-Новости. (Речь президента на открытии очередного Ледового дворца — в д.Дрюковичи — и погода.) Прим. Погода должна быть обязательно, это свидетельство того, что канал не замыкается на политике.

9.45. Хоккейный матч.
Сборная ветеранов НХЛ — сборная Ледового дворца д.Дрюковичи. Капитан сборной НХЛ — У.Гретцки. Капитан сборной Ледового дворца — А. Лукашенко. Прямая трансляция. Комментаторы В.Новицкий и А.Лукашенко.

Прим. Гонорар сборной ветеранов НХЛ и ее капитану (недорого, около 7 млн. долларов) — из бюджета РБ.

11.15.Политические монологи. Ведущая Л.Гринько с выражением читает речь президента РБ на открытии Ледового дворца в д.Дрюковичи.

12.00. Политические диалоги, Ведущий Е.Дмитриев обьясняет У.Гретцки. почемув д.Дрюковичи вместо нового коровника надо было строить Ледовый дворец.

12.40. Час сериала.
"Охотники заприведениями". (Рассказ о том, как беларусские спецслужбы ищут вывешивателя флагов Мирона.)

13.40. Записки натуралиста.
(Пенсионер Иванов —о том, как его семья ведет на балконе натуральное хозяйство.)

14.00. "Золотой швагер". Телепередача о преимуществах, которыедает обычному жителю республики наличие родственников в президентской «вертикали».

14.30, Телерепортаж об очередном вручении президенту А.Лукашенко главного приза кинофестиваля "Золотой Витязь".

Прим. Расходы на проведение кинофестиваля "Золотой витязь" и изготовление приза — из бюджета РБ.

15.15, Минуты поэзии. Поэт читает изложенную в стихах речь А.Г. Лукашенко на открытии Ледового дворца в д.Дрюковичи.

16.00. Международная панорама. (Независимая политика Республики Беларусь находит широкую поддержку в мире. 06 этом заявляют отдельные представители трудовых масс Северной Кореи, Кубы, Ирака.)

16.40. Культура братских народов. Неизвестный Пушкин. Группа московских литературоведов знакомит зрителей с неизвестными строками А.С.Пушкина, посвящёнными президенту А.Г. Лукашенко.
Прим. Оплата поисков московских литературоведов неизвестных стихов А.С. Пушкина — из бюджета РБ.

18.00. Дискуссионный клуб. Комментаторы Ю.Казиятко и А.Зимовский дискутируют— едят ли лидеры беларусской оппозиции детей.

19.30. Триллер "Дракула".тДве серии. Производство к/с "Беларусьфильм". (В центре фильма—жизнь деятельность З.Позняка. Режиссер Ю.Азаренок.)

23.00. "Салон Э.Ёзерской". (Композитор В.Раинчик рассказывает о работе над новым мюзиклом по речи президента А.Г. Лукашенко при открытии Ледового дворца в д.Дрюковичи.)

**Сергей ЛЫСЫЙ. "Рабочы"**



Цьмяна-чырвоныя неба над горадам.
Змрок у пакоі. Постаці цьмяныя.
Здані ці людзі пад небам чырвоным,
Хто вы -- адрынутыя ці абраныя?

Спрэчкі да хрыпу ў агеньчыку сьвечкі.
Вочы заплюшчыш -- ня ўбачыш абразы.
Хочацца бегчы, што духу ёсьць бегчы...
"Наша жыцьцё -- у двух простых адказах."

У грудзі --гарпун, нават дыхаць балюча.
Цяжка вам прыйдзецца, душы адданыя...
У памяці круцiцца, круціцца, круціцца:
Хто мы -- адрынутыя ці абраныя?

Люба Падзвігіна

Бюлетэнь "ВЕРАС"
gazeta@veras.f2s.com
Віцебск, 210032, а/с 29-А
Заснавальнік: Віцебская суполка моладзі "Верас", vsm@veras.f2s.com
Выдавец: Віцебскі цэнтар моладзевых ініцыятываў "Контур",kontur@vitebsk.net
www.vitebsk.net/kontur
Наклад 250
**На правах рукапісу.**
**Дзеля унутранага карыстання.**
Пры падтрымцы USIS
Друк ВАФ ім. Сапегі

Вітаем вас на старонках другога нумара бюлетэня "Верас"! Дзякуем за вашую увагу.

Дадзены выпуск прысвечаны большай часткай Дню Волі, што мае адбыцца ў суботу 25 сакавіка, таму чыста інфармацыйных навінаў тут вы знойдзеце няшмат. Затое мы, нарэшце, пачалі і самі патрохі працаваць: у нумары з'явіліся матэрыялы нашых асабістых аўтараў. Дарэчы, мы з задавальненнем надрукуем і ваш цікавы артыкул на любую тэматыку. Дасылайце. Яшчэ мы чакаем ад вас меркаванняў наконт нашага бюлетэня і прапаноў па яго развіццю. Пішыце: *Віцебск,210032, а/с 29-А ці gazeta@veras.f2s.com.*

На жаль, зараз мы не маем магчымасці рассылаць выданне па пошце ў нашых канвертах з-за фінасавых праблемаў. Таму, каб атрымліваць бюлетэнь рэгулярна, дашліце нам адразу некалькі канвертаў, кожны з якіх вы атрымаеце разам з новым нумарам "Вераса".

Вось, здаецца, пакуль і ўсё. Са святам вас, шаноўныя чытачы!

**З павагай,рэдактары:**
**Я. Манцэвіч, А. Парфёнаў**